


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

11 жніўня 2000 года
№ 32 (277)
Цана ў розніцу 80 рублёў




## Навіны рэгіёна

### У Ашмянах узнікае дынастыя дырэктараў

**АШМЯНЫ**. На мінулым тыдні на мясцовым дражджавым заводзе, які лічыцца адным з лепшых, змяніўся дырэктар. **Міхаіл Кулік** кіраваў заводам з 1964 года, але цяпер не можа спраўляцца са сваімі абавязкамі па стане здароўя. На ягонае месца прызначаны **Міхаіл Філіповіч**. Цікава, што яго маці ўзначальвае Савет дырэктараў на мясцовым мясакамбінаце.

**Аддзел інфармацыі.**

### На Мястры пакуль лепш не купацца

**МЯДЗЕЛ**. Ля галоўнага пляжа на возеры Мястра ў вадзе зафіксавана павышэнне ўтрымання кішэчнай палачкі.
Вінаватая ў гэтым водная расліннасць, якую ў вялікай колькасці вецер прыбівае да берага. Мясцовы РЦГіЭ рэкамендаваў абмежаваць купанне ў гэтым месцы.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Удвая павялічваецца доля стратных

**АШМЯНЫ**. Намеснік начальніка раённага цэнтра статыстыкі **Галіна Яфімава** адзначае, што колькасць работнікаў, занятых на прадпрыемствах дзяржсектара ў раёне (за выключэннем малых прадпрыемстваў, прадпрымальнікаў, таварыстваў з абмежаванай адказнасцю) скарацілася і склала за 1 паўгоддзе 11778 чалавек. Ад мінулагодняга паказчыка гэта складае 95,4%.
Па сведчанні эканаміста **Нелі Радкевіч**, доля стратных прадпрыемстваў за першыя 6 месяцаў склала 36,4% (20 з 55). Летась доля "стратнікаў" была меншая – 16,1% (9 з 56).

**Аддзел інфармацыі.**

### Грыбная салянка будзе

**СМАРГОНЬ**. 2 тоны вараных грыбоў паступіла на Сольскі завод для сушкі агародніны – гэта вынік работы грыбаварнага пункта ў вёсцы Дзевятні.
Дырэктар завода **Рыгор Лук'яненка** плануе нарыхтаваць яшчэ 5 тон. Асноўная "сыравінай" з'яўляюцца махавікі. За грыбы плацяць цукрам (у суадносінах 5 кілаграмаў грыбоў на 1 кілаграм цукру) ці алеем (7 да 1 літра). Калі вырашыцца праблема недахопу тары, то салянка ў продажы з'явіцца ў сярэдзіне жніўня. Кошт 1 кілаграма прымаемых яблыкаў з аўторка – 40 рублёў. Па стане на сераду назапашана 150 тон.

**Аддзел інфармацыі.**

### Ізноў шалёныя лісіцы

**МЯДЗЕЛ**. У сераду ў раёне зафіксаваны яшчэ адзін выпадак шаленства лісіц. Лясная вiзiцёрка наведвалася ў вёску Брусы і душыла курэй, пакуль яе не злавіў сабака. Да гэтага ў лютым у раёне былі таксама зафіксаваныя выпадкі шаленства лісіц.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

### Капліцай болей

**АСТРАВЕЦ**. У райцэнтры на 7 касцёлаў прыходзіцца 1 праваслаўны храм, які быў узведзены намаганнямі прыхаджанаў і бацюшкі **Пятра Варановіча** летась.
З яго ініцыятывы ў раёне чакаецца папаўненне праваслаўных устаноў. У Альхоўцы, дзе доля праваслаўных вернікаў найбольшая, ідзе збор сродкаў на ўзвядзенне капліцы. Праектная дакументацыя на яе падрыхтаваная.

**Аддзел інфармацыі.**

### Надвор'е на выхадныя

**Субота, 12 жніўня**

**Мінск**
10 - 12°С (уначы)
23 - 24°С (удзень)



**Вільня**
11°С (уначы)
24°С (удзень)



**Нядзеля, 13 жніўня**

**Мінск**
11 - 15°С (уначы)
23 - 25°С (удзень)



**Вільня**
13°С (уначы)
23°С (удзень)





■ СВАБОДА СЛОВА І ЎЛАДА

# Маўчаць і не пушчаць – пазіцыя ашмянскай вертыкалі



Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.
«Дазвольце, таварыш Кудырка!». Помнік Леніну ў Ашмянах, 7 жніўня 2000 г.

**У панядзелак карэспандэнт "Рэгіянальнай газеты" вырашыў прыйсці на прыём да старшыні Ашмянскага райвыканкома. Пазнаёміцца, а магчыма, дамовіцца аб супрацоўніцтве. Чытачам «РГ» у суседніх раёнах цікава ведаць пра тое, што адбываецца на Ашмяншчыне. Аднак журналіста папрасілі за дзверы.**

Карэспандэнт "РГ" запісаўся на прыём да старшыні Ашмянскага райвыканкома **Вітольда Кудыркі**. Калі пасля дзвюх гадзін чакання ўвайшоў у кабінет начальніка і прадставіўся, пачуў:

– Мясцовае жыццё дастаткова асвятляецца ў раённай, абласной і рэспубліканскай прэсе... Да пабачэння, я не хачу з вамі гаварыць, у мяне сёння прыёмны дзень.

Адмаўленне ў інфармацыі прадстаўнікамі ўлады з'яўляецца "фірменнай рысай" горада.

У сакавіку кіраўнік Ашмянскага цэнтра занятасці **Васіль Драня** забараніў даваць інфармацыю пра колькасць беспрацоўных у раёне.

Праз тыдзень пасля Васіля Драні ў "чорны спіс" трапіла загадчыца аддзела інфармацыі райвыканкома **Валянціна Лузіна**, якая адмовіла ў інфармацыі аб прызначэнні якраз Вітольда Кудыркі на сваю цяперашнюю пасаду. Прычынай паслужыла тое, што "РГ" – недзяржаўнае выданне.

На просьбу хаця б сфатаграфаваць новы старшыня адказаў:

– Я не девочка, чтобы меня фотографировали.

Вітольд Кудырка робіць, як сусед – старшыня Астравецкага райвыканкома **Адам Кавалька**, які адмовіў "РГ" у акрэдытацыі. Кавалька, дарэчы, у свой час замяніў на пасадзе старшыні райвыканкома... роднага брата В. Кудыркі – Мечыслава.

У нашых планах было інтэрв'ю з нядаўна прызначаным старшынёй Ашмянскага райвыканкома. А пра Ашмяны мы пісаць будзем.

У традыцыйным, цяпер ашмянскім, экспрэс–апытанні мы вырашылі праверыць сцвярджэнне Вітольда Кудыркі пра дастатковае асвятленне жыцця раёна.

**Юрый КАРПІЦКІ.**

## Экспрэс–апытанне ашмянцаў

# Якія газеты вы чытаеце?



**Міхаіл Крачкоўскі, пенсіянер, які працуе:**
– Чытаю "Рэспубліку" і "Ашмянскі веснік". Гэтыя выданні мяне задавальняюць. Не люблю газеты, дзе шмат пустога, залішніх палітычных размоў. Падабаюцца "камерцыйныя" газеты, цікаўлюся часам, як жыве дзелавы свет. Мясцовая прэса падабаецца. Яна мала што бярэ ад цэнтральнай прэсы, апаратўйна рэагуе на факты.
"РГ" чытаў некалькі разоў. Увогуле, неблагая газета.



**Валянціна Кандратовіч, кіяскёр:**
– Пра здарэнні, якія адбываюцца ў раёне, расказвае "Ашмянскі веснік". Хацелася б больш якаснай інфармацыі.
Ваша газета падабаецца. Хаця Ашмяны ў крыўдзе: вы пра нас мала пішаце. Вілейка, Валожын, Маладзечна ёсць у кожным нумары, а з Ашмянаў, бывае, увогуле няма нічога.



**Павел Лапейка і Дэяніс Канцавы, перайшлі ў 11 і 10 класы СШ №2:**
– Падабаюцца газеты спартыўныя: "Спорт-кур'ер", "Прэсбол", "Савецкі спорт". "Ашмянскі веснік" чытаем выпадкова. Падабаецца крымінальная рубрыка.



**Аксана Кеда, прадавец:**
– Чытаю "7 дзён", "Сямейны ачаг". Мясцовую прэсу чытаць не даводзіцца, падабаюцца газеты іншай тэматыкі.
А пра Ашмяны я і ў сваім магазіне ўсё даведаюся.



**Аляксей Хадановіч, будаўнік:**
– Падабаецца "Рэспубліка", "Камсамолка". Мясцовую прэсу не чытаю, бо там няма чаго чытаць, якасць інфармацыі мяне катэгарычна не задавальняе.



**Ала Шаўчэнка, настаўніца:**
– Чытаю шмат газет. Ніводны дзень без гэтага не праходзіць – пры маёй прафесіі трэба ведаць усе навіны, бо адстану ад вучняў (смяецца). Пра Ашмяны чытаю ў раёнцы, мясцовае радыё няма калі слухаць. У "... весніку" асвятляюцца, у асноўным, жніво ды сельская гаспадарка. Нядрэнна было б увесці рубрыку "Пытанне – адказ", кансультацыі юрыста, урача, сацыяльнай службы. Хацелася б, каб больш расказвалі пра нашы правы, ільготы. Раней наш горад лічыўся адным з самых прыгожых. Цяперашняя адміністрацыя родам не адсюль, таму азеляненне ёе, напэўна, мала цікавіць. А горад – твар рэспублікі, недалёка Літва. Ды і ў магазінах цэны маглі б быць меншыя. Па прадукты езджу ў Смаргонь.

Фотаапытанне падрыхтаваў Юрый КАРПІЦКІ.

■ РЦГіЭ ПАВЕДАМЛЯЕ

# Праверка на радыенукліды – бясплатная

**МАЛАДЗЕЧНА. Меры радыяцыйнай абароны ўключаюць у сябе кантроль за ўтрыманнем радыенуклідаў у прадуктах харчавання. У перыяд нарыхтоўкі агародніны, ягад, грыбоў, лекавых раслін такі кантроль патрабуе асаблівай увагі як з боку спецыялістаў, так і ўсіх нас. Хаця вынікі аналізаў дадзеных радыелагічных даследаванняў, што паступілі з прадпрыемстваў, сведчаць, што нават не ўсе кіраўнікі разумеюць важнасць праблемы.**


Фота IREX/ProMedia.
Пры зборы ці куплі грыбоў мала ў каго ўзнікае думка праверыць іх на наяўнасць радыенуклідаў. Але зрабіце гэта!

Не прадстаўленыя вынікі даследаванняў прадукцыі ААТ "Маладзечнагароднінагандаль", не ў поўным аб'ёме даследуецца нарыхтоўваемая прадукцыя прадмпрыемства "Маладзечанскі каапнарыхтпрам". Раней гэта звычайна тлумачылі адсутнасцю неабходных прыбораў. Але цяпер прыборамі забяспечаныя, штаты ўкамплектаваныя, а патрэбнай работы па кантролі не наладжана.

Пры дапушчальнай норме 370 БК/л выяўлена забруджванне ў курачках – 9168 БК/л і ў махавіках – 3638 БК/л, якія былі сабраныя каля в. Талуць Вілейскага раёна, а курачкі, сабраныя каля в. Заскавічы Маладзечанскага раёна, паказалі 685 БК/л. Гэта пры тым, што забруджаныя, зразумела, могуць быць не толькі грыбы.

Спецыялісты Маладзечанскага РЦГіЭ пастаянна падкрэсліваюць: радыяцыйная бяспека – гэта не міф, а рэальнасць. Адсюль і іхняя просьба: усё, што нарыхтоўваецца ў лясах, правярайце на ўтрыманне радыенуклідаў. У цэнтры гігіены і эпідэміялогіі даследаванні праводзяцца бясплатна (даведка ў Маладзечне 53335).

**Аддзел радыяцыйнай гігіены Маладзечанскага РЦГіЭ, аддзел інфармацыі "РГ".**

## Вынікі радыелагічных даследаванняў прадуктаў, праведзеных Маладзечанскім райЦГіЭ з 4 па 10 жніўня. Гама–фон быў у межах 9–12 мР/гадз.

| № п/п | Віды прадукцыі | Колькасць пробаў | Фактыч. утрыманне Бк/кг | РДУ–99 Бк/кг | Месца адбору, збору |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Кавун | 1 | 7,4 | 40 | рынак |
| 2. | Лекавая сыравіна | 4 | 7,4 | 1850 | вв. Стаўкі, Даманава, Шылавічы, Журыхі Вілейскага раёна; вв. Краснае, Лебедзева, Дравашы, Мясата, Скавародкі, Палачаны Маладзечанскага раёна; в. Нарач Мядзельскага раёна |
| 3. | Кілбаса | 1 | 7,4 | 180 | МПЦ "Антанопаль" |
| 4. | Кілбаса | 1 | 7,4 | 180 | Калгас "Гарадзілава" |
| 5. | Селядцы | 1 | 7,4 | 370 | ПФ "Садас" |
| 6. | Грыбы | 19 | 18–260 | 370 | |
| 7. | Грыбы | 10 | 395–1926 | 370 | в. Слабада Мядзельскага раёна; вв. Любань, Талуць, Чарчонава, Паняцічы, Даманава Вілейскага раёна; вв. Раёўка, Рашоткі, Заскавічы Маладзечанскага раёна |
| 8. | Чарніцы | 1 | 7,4 | 185 | в. Вязынь Вілейскага раёна |
| 9. | Маліны (варэнне) | 1 | 7,4 | 370 | в. Маршалкі Валожынскага раёна |
| 10. | Напіткі газіраваныя | 3 | 7,4 | 370 | СП "Каларыт–Lida" |

Нядаўнімі распараджэннямі аблвыканкомаў "Аб мерах па папярэджанні распаўсюджвання забруджанай радыенуклідамі лесагаспадарчай прадукцыі і зніжэнні доз унутранага апраменьвання насельніцтва" у раёнах павінны быць створаныя групы спецыялістаў па выкараненні незаконных выпадкаў збору грыбоў і ягад, сенакашэння, выпасу скаціны, гандлю дарамі лесу без правядзення радыяцыйнага кантролю.

Гэтымі ж распараджэннямі рэкамендавана на месцах прыняць нарматыўныя акты, якія забаранялі б гандаль дарамі лесу ў неўстаноўленых месцах, а таксама продаж іх без праходжання радыелагічнага кантролю.

Даследаванні прадукцыі насельніцтва для асабістага выкарыстання павінны праводзіцца ва ўсіх установах, якія маюць падраздзяленні радыяцыйнага кантролю. Бясплатна і без выдачы сертыфіката.

**Аддзел радыяцыйнай гігіены Маладзечанскага РЦГіЭ.**

■ ЖЫЦЦЕ НАШАЕ

# Заводы назапашваюць сыр і масла

**МАЛАДЗЕЧНА. У сераду ў гарвыканкоме на нараду сабраліся прадстаўнікі прадпрыемстваў гандлю і банкаў. Першы намеснік старшыні гарвыканкома Яфім Ідэльчык праінфармаваў прысутных аб выкананні прадпрыемствамі (дакладней, іхнімі сталовымі і харчовымі магазінамі) рашэння аб назапашванні масла і сыру для рэалізацыі іх у зімовы перыяд.**

За тыдзень да апошняга тэрміну выканання поўнасцю план закрылі ўсяго некалькі прадпрыемстваў. Ёсць і такія, якія яшчэ не пачыналі закладку. **Я. Ідэльчык** папярэдзіў, што "у выпадку сабатажу прадпрыемствы будуць пазбаўленыя ліцэнзій на права рознічнага гандлю".

Па стане на аўторак масла назапасілі 37 тон (са 111 запланаваных), сыру – 5,5 тон (з 36,5).

У ліку тых, хто заявіў аб немагчымасці выканання задання, прадстаўнікі "Электрамодуля" і "Спадарожніка". Апошняму заданне па масле ўсяго паўтоны, роўна столькі, колькі ў аднаго з індывідуальных прадпрымальнікаў (Я. Ідэльчык заznačаў, што гэты прадпрымальнік мае магазінчык у палову залы пасаджэнняў гарвыканкома, дзе і ішла нарада, і даўно забыўся на гэты план).

З "адмоўнікамі" будуць праводзіцца сустрэчы, падчас якіх, магчыма, адшукаюцца шляхі да выканання плана.

**Аддзел інфармацыі.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 3 жніўня | 10 жніўня |
|---|---|---|
| Долар | 795,00 руб. | **820,00** руб. |
| Нямецкая марка | 372,52 руб. | **376,14** руб. |
| Літ | 198,70 руб. | **204,95** руб. |
| Расійскі рубель | 28,57 руб. | **29,60** руб. |
| Злоты | 181,84 руб. | **187,88** руб. |
| ЕЎРА | 728,58 руб. | **735,66** руб. |

**«Вулічныя» курсы ў Маладзечне**

| | | |
|---|---|---|
| Долар | 990 – 1010 руб. | **995 – 1010** руб. |

## Маладзечна. Цэны ў сераду на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 02.08 | 09.08 |
|---|---|---|
| Курыныя кумпячкі, 1 кг | 1350 | 1350 |
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 4522 | 4950 |
| Сасіскі, 1 кг | 1495 | 1395 |
| Селядзец, 1 кг | | 800 |
| Рыс, 1 кг | 340 | 350 |
| Грэчка, 1 кг | 610 | 610 |
| Цукар, 1 кг | 475 | 465 |
| Алей, 1 л | 690 | 700 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 380 | 390 |
| Маянэз, 250 г | 150 | 160 |
| Кава "Пеле", 100 г | 900 | 900 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 290 | 280 |
| Соус там. «Мінскі», 0,5 л | 280 | 320 |
| Лімоны, 1 кг | 950 | 980 |
| Апельсіны, 1 кг | 530 | 540 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 250 | 280 |
| Капуста, 1 кг | 100 | 100 |
| Кавун, 1 кг | | 200 |
| Дыня, 1 кг | | 700 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Смятана, 1 л | 700 | 600 |
| Масла, 1 кг | 1600 | 1500 |
| Тварог, 1 кг | 500 | 450 |
| Малако, 1,5 л | 200 | 200 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 480 | 500 |
| Бульба маладая, малое вядро | 500 | 400 |
| Морква маладая, 1 кг | 250 | 200 |
| Персікі, 1 кг | 850 | 880 |
| Маліны, малое вядро | 3000 | 3500 |
| Чырвоныя парэчкі, малое вядро | 1500 | 1500 |
| Агрэст, малое вядро | 2000 | 4000 |
| Чарніцы, малое вядро | 4000 | 4000 |
| Вішня, малое вядро | 3000 | 3000 |
| Сліва, малое вядро | | 1300 |
| Алыча, малое вядро | 1500 | 1000 |
| Агуркі, 1 кг | 200 | 200 |
| Памідоры, 1 кг | 350 | 300 |
| Яблыкі, 1 кг | 200 | 250 |
| Грушы, 1 кг | 700 | 250 |

■ СПАЖЫВЕЦ

# І ў ліпені скардзіліся на абутак

МАЛАДЗЕЧНА. За ліпень і першы тыдзень жніўня ў таварыстве абароны спажыўцоў зарэгістраваныя 24 заявы ад гараджан у сувязі з парушэннем іх спажывецкіх правоў. 23 звязаныя з пытаннямі гандлёвага абслугоўвання, 1 – па грамадскім харчаванні (у кафэ ў кубачку з кавай наведвальніца заўважыла таракана).

Калі ў першым летнім месяцыназіраліся скаргі па пытаннях працоўнага заканадаўства, бытавога і медыцынскага абслугоўвання, абслугоўвання АТС, то ў другім вялікую долю склалі прэтэнзіі па якасці абутку.

Старшыня таварыства **Уладзімір Клешч** тлумачыць гэта тым, што ліпень – разгар курортнага сезона, і большасць спажыўцоў якраз у гэты тэрмін робіць больш–менш значныя для сябе пакупкі.

У. Клешч для чытачоў "РГ" дае наступныя парады, якія змогуць дапамагчы вам пазбегнуць непрыемнасцяў пры ажыццяўленні гандлёвых аперацый.

1. Не купляйце тавар у гандлёвым пункце, што першы трапіўся вам на вочы (пагледзіце на цэны і якасць тавару ў іншых месцах).

2. Правільна афармляйце пакупку (заўсёды патрабуйце таварны чэк).

3. Не спяшайцеся пры афармленні пакупкі (асабліва, калі вас прыспешвае прадавец. Чым даражэйшы тавар, тым больш часу ўдзяляйце яго праверцы на якасць).

4. Для дарагой пакупкі выбірайце максімальна добрую якасць (хутчэй за ўсё, такую рэч вы купіце не адразу).

5. Выбірайце добры магазін (не абавязкова самы дарагі, лепш больш надзейны).

6. Не купляйце з рук ежу і лекі.

Ведайце свае правы і будзьце гатовыя за іх змагацца (калі будзе патрэбна, звяртайцеся ў суд, не палохайцеся гэтага).

**Юрый КАРПІЦКІ.**

■ ЛЕТА

# Немцы ў "Зубраняці"

МЯДЗЕЛ. Два тыдні ў летніку "Зубраня" адпачывалі больш за 30 дзяцей з Нямеччыны ад 12 да 19 год. Нічога асаблівага для немцаў не рыхтавалі, жылі, забаўляліся яны, як і беларусы.

Прыязджаюць немцы ў "Зубраня" ужо сёмы год – відаць, падабаецца. Адметна, што запрашалі іх на Нарач па звычайных аб'явах: хто хоча адпачыць у Беларусі?

**Алесь ВЫСОЦКІ.**








